На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

**№ 168 (750)**

Субота, 11 верасня 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., па падпісцы — 11000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля



**Пратэст**



## Салігорск мітынгуе

Восьмага верасня ў Салігорску прайшоў прафсаюзны мітынг. Арганізатару — прафкаму ВА "Беларуськалій" Белхімпрафсаюза — удалося сабраць на гэтай акцыі каля 6 тысяч, што для такога невялікага горада, як Салігорск, нямала. Удзельнікі выступалі супраць прыняцця дэкрэта "Пра дадатковыя захады па ўдасканаленні працоўных адносінаў, умацаванні працоўнай і выканаўчай дысцыпліны", супраць падзення ўзроўню жыцця. У прынятай імі рэзалюцыі гаворыцца: "Ужо які раз, не справіўшыся з праблемамі выйсця з эканамічнага крызісу, дзяржава перакладае на плечы працуючых наступствы няздольнасці сваёй эканамічнай палітыкі ў выглядзе паніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, дэфіцыту прадуктаў харчавання і прамысловых тавараў па даступных цэнах".

Асобую заклапочанасць у ўдзельнікаў акцыі выклікала падзенне зарплаты, рост цэн на спажывецкія тавары і паслугі, зніжэнне пакупніцкіх магчымасцяў грамадзян.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## Ці будзе спраўджана абяцанне?

Памятаеце, як сёлетняй вясной А.Лукашэнка абяцаў, што жыццёвыя цяжкасці, звязаныя з ростам дарагоўлі і дэфіцытам прадуктаў харчавання, будуць непрацяглымі. І нават назваў тэрмін, калі гэта скончыцца — кастрычнік. Далей, маўляў, настуціць час дабрабыту, фінансавай стабілізацыі і, вядома, эканамічнага росту.

Да пачатку аб'яўленага цуду засталося ўсяго нічога. Але, на жаль, ніякіх перадумоваў, што абяцанка будзе спраўджана, нідзе не відаць. Усё якраз наадварот. Якія б эканамічныя ды сацыяльныя паказчыкі мы ні ўзялі, нішто не сведчыць, што праз месяц, два ці праз болей працяглы час настуціць нейкая палёгка ў жыцці людзей. Прагназаваныя раней паказчыкі росту рэальных даходаў насельніцтва правалены. Паводле афіцыйных даных, за 7 месяцаў года прамысловая вытворчасць харчовых тавараў скарацілася амаль на 8 працэнтаў, а ў ліпені, у параўнанні з чэрвенем, — на ўсе 10. І гэта не дзіўна, бо ў калгасах і саўгасах ідзе суцэльны спад вытворчасці малака і мяса (на 13—14 працэнтаў з пачатку года). На цэлых 6 працэнтаў зменшылася пагалоўе буйной рагатай жывёлы.

Пра які рост дабрабыту можа ісці гаворка, калі сёлетні збор збожжа складзе дзесьці 3,8 млн. тон, альбо на цэлы мільён тон меней за леташні збор. У зборы збожжа тры гады запар назіраецца устойлівая паніжальная тэндэнцыя. У 1997 годзе было сабрана 6 млн. тон, у 1998-м — 4,8 млн. тон, а сёлета — 3,8 млн. тон.

Вядома ж, адной з прычын такога стану з'яўляецца неспрыяльнае надвор'е. Але чаму гэтае ж самае надвор'е не стварае такіх крытычных праблем у зерневай гаспадарцы краін-суседзяў — напрыклад, у Літве ці Польшчы? Пэўна, таму, што там на зямлі ёсць гаспадар, а ў нас яго няма. Цікава, што вакол вынікаў "бойкі за ўраджай" замест шумлівай кампаніі на пачатку жніва зараз у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі назіраецца поўная інфармацыйная цішыня. Нібыта ўсё ў парадку. Толькі вяртаючыся з Масквы пасля перамоваў з кіраўніком расійскага ўрада Уладзімірам Пуціным старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг нядаўна бадзёра заявіў на прэс-канферэнцыі, што сабранага зерня з разліку 120 кг на чалавека хопіць для нашай харчовай бяспекі. Не, шаноўны Сяргей Сцяпанавіч, не хопіць. Бо збожжа трэба многа, каб атрымаць да хлеба яшчэ і свініну, і мяса птушкі, і яйкі, і малако, і масла. Між іншым, за вылікам насення, якраз і не хапае гэтага збожжа. І нямала — бракуе 2 млн. тон. Гэта ж бяда вялікая, што з-за бяскорміцы плануецца перагон ці перавоз жывёлы, напрыклад, з Віцебскай вобласці ў Гродзенскую на пракорм. Такога змушанага перамяшчэння жывёлы на зімоўку яшчэ ніколі не было!

Вялікі недабор збожжа цягне за сабой цэлы ланцуг цяжкавырашальных праблем. Трэба закупіць за мяжой не меней як 2 мільёны тон збожжа — харчовага і фуражнага. Патрэбна дзеля гэтага не 100 мільёнаў долараў, а ўсе 200. І іх трэба яшчэ "знайсці". Ды яшчэ ліквідаваць запазычанасць усім пастаўшчыкам за газ. Ды мець на ўвазе адмоўнае сальда па знешнім гандлі. Грошы будуць знойдзены толькі за кошт народа. За першыя 7 месяцаў года зэмісавана 35 трыльёнаў рублёў незабяспечаных грошай, да канца года будзе надрукавана яшчэ 41 трыльён рублёў (такую лічбу называлі высокія начальнікі).

Вось і "рашэнне" праблемы. Грошы "расцякуцца", а цэны ўзлятуць. Інфляцыйную нацэнку ў значнай ступені скарыстае дзяржава для "затыкання дзірак". Ваюючая на Каўказе Расія нам не дапаможа. З Захаду таксама няма чаго чакаць. У высокіх канцылярыях і міністэрствах гэта разумеюць. Таму ўрад і не спяшаецца павышаць мінімальную заработную плату, нягледзячы на патрабаванні прафсаюзаў і працоўных калектываў.

Ва ўмовах, калі ідзе несупыннае зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, урад спрабуе нейкім чынам аблегчыць лёс бяднейшых слаёў. У сярэдзіне жніўня была прынята пастанова №1254 "Аб мерах па сацыяльнай абароне малазабяспечаных грамадзян". Але яна засталася нават не заўважанай у грамадстве, бо там няма анічога, што сапраўды дапамагло б бедным людзям.

Напрыклад, у пункце 2.3 запісана: "Да 1 верасня замацаваць малазабяспечаных грамадзян за магазінамі для забеспячэння іх таварамі па болей нізкіх цэнах". Па-першае, трэба "замацоўваць" ці не палову насельніцтва, якое жыве за рысай беднасці. А, па-другое, ці будуць яшчэ тыя тавары? Што дасць такое замацаванне, за які кошт будуць зніжацца цэны на тавары? За кошт сродкаў прадпрыемстваў, узровень рэнтабельнасці якіх альбо надта нізкі, альбо зусім адмоўны? У пастанове ёсць запіс, дзе даецца даручэнне шэрагу міністэрстваў "устанавіць прадпрыемствам заданні па выпуску сацыяльна значных тавараў па зніжаных цэнах". Значыць, гэтых сацыяльных тавараў яшчэ няма, урад яшчэ збіраецца арганізаваць іх выраб... Дык хіба гэта клопат пра сённяшнія патрэбы малазабяспечаных?

Прыкладна такую ж "вагу" мае і рашэнне ўрада аб павышэнні ў верасні пенсій у сярэднім на 7 працэнтаў, што значна ніжэй тэмпаў інфляцыі. А што датычыцца мінімальных пенсій, то яны павялічацца толькі на 3 працэнты, і іх сума складзе каля 4 млн. рублёў. Прымацоўвай такога пенсіянера да любога магазіна — купляць яму ўсё роўна няма за што. На гарадскіх рынках, дзе кілаграм сала каштуе ўжо каля мільёна рублёў, а кілаграм бульбы — 100 тысяч рублёў, большасці пенсіянераў таксама няма чаго рабіць.

Зусім не аб павышэнні жыццёвага ўзроўню сведчаць і даходы актыўнай часткі насельніцтва. Сярэдняя заработная плата ў межах 21 мільён рублёў сёння не дае дабрабыту. Яна толькі на 16—18 працэнтаў перавышае мінімальны пражытачны бюджэт. Ці не парадокс, што маладая сям'я, дзе муж і жонка працуюць, на свае заробкі не могуць утрымліваць нават адно дзіця і мусяць зводзіць свае патрэбы да мінімуму? А ў каго дзеці — школьнікі, то перад пачаткам навучальнага года бацькі асабліва адчуваюць фінансавы ціск на сямейны бюджэт. На адзенне ды школьны рыштунак аднаго навучэнца трэба было выдаткаваць звыш 20 мільёнаў рублёў!

А ў гэты час урад не спяшаецца з павышэннем мінімальнай заработнай платы. Чагосьці чакае... Ці не вынікаў увядзення ў абарачэнне пяцімільённай грашовай купюры? Справа ў тым, што калі была ўведзена ў абарачэнне мільённая купюра, то гэта сведчыла аб набліжэнні краху ўсёй грашова-крэдытнай сістэмы пад ударамі мацнеючай інфляцыі. Ну а ўвядзенне купюры ў 5 мільёнаў — гэта, бадай, ці не апошні ўдар па нашай грашовай сістэме. Дзяржава ратуецца ат таго, што выдаткі на друкаванне грошай пачынаюць перавышаць іх пакупніцкую моц. У дадзеным выпадку новая купюра ёсць планавы прадвеснік новай хвалі гіперінфляцыі. І калі насельніцтва будзе поўнасцю абдзёрта, тады будзе праведзена грашовая рэформа. Іншага выйсця не будзе.

Заключэнне можна не рабіць. Са сказанага вынікае, што абяцанні А.Лукашэнкі таксама носяць інфляцыйны характар. Таму цудаў не будзе, і іх ніхто не чакае.

**Чулі?**

## Зімоўскі дагаварыўся да пасады... кіраўніка БТРК?

Апошнім часам у калідорах Беларускага тэлебачання сталі распаўсюджвацца чуткі аб магчымым назначэнні Аляксандра Зімоўскага старшынёй Белтэлерадыёкампаніі. Рыгор Кісель не супраць змяніць нервовую працу на пасадзе кіраўніка БТРК на больш спакойнае месца Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла адной з краін далёкага ці блізкага замежжа. Што ні кажыце, і праца больш прэстыжная, і ад "бацькі" далей...

Кандыдатаў на ягоную цяперашнюю пасаду не вельмі шмат, а галоўны рэзанатар Беларусі апошнім часам працуе занадта самаахвярна. Але ж не хвалюйцеся. Калі гэта і здарыцца, Аляксандр Леанідавіч усё роўна не пакіне нас з вамі і па-ранейшаму кожную нядзелю будзе радаваць нас сваімі арыгінальнымі палітычнымі "откровениями". Тым больш што прэцэдэнт такі ўжо меў месца. Не так даўно Мікалай Сванідзе ўзначальваў Расійскае тэлебачанне (РТР) і адначасова працягваў весці сваю аўтарскую праграму "Зеркало"...

А вось шэраговыя супрацоўнікі тэлебачання незадаволеныя. Добра вядомыя ў твар дыктары і вядучыя, чыя дзейнасць не тычыцца палітыкі, скардзяцца на свае зусім невялікія заробкі. З прыходам на кіруючую пасаду Зімоўскага, на іх думку, праблем толькі прыбавіцца. Некаторыя падчас даверлівай размовы ў пік фінансавага крызісу ці душэўнай дэпрэсіі згодныя нават арганізаваць на тэлебачанні забастоўку. Але, на жаль, падобныя памкненні чамусьці ўзнікаюць у іх толькі за чаркай гарэлкі...

**Фёдар СТУКАЎ.**

## Урад выдзяляе новыя сродкі на падрыхтоўку да "Дажынак-99"

Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову, якой прадугледжваецца выдзеліць буйныя сумы на завяршэнне падрыхтоўчых работ да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў сяла "Дажынкі-99", які запланавана правесці ў верасні ў Шклове (Магілёўская вобласць). У прыватнасці, Міністэрству жыллёва-камунальнай гаспадаркі будуць накіраваныя 200 мільярдаў рублёў на капітальны рамонт аб'ектаў жыллёвага фонду і сацыяльна-бытавога прызначэння, а Магілёўскаму аблвыканкаму — 100 мільярдаў рублёў на капітальныя ўкладанні.

Гэта ўжо не першае выдзяленне бюджэтных сродкаў на падрыхтоўку да "Дажынак-99". Напачатку жніўня на гэтыя мэты ў адпаведнасці з пастановай урада Магілёўскаму аблвыканкаму было накіравана 300 мільярдаў рублёў.

**Сяргей СНЕГІН.**

**Інцыдэнты**

## Працягваецца расследаванне падзей, што адбыліся на варшаўскім рынку

Беларускі МЗС атрымаў напрыканцы мінулага тыдня ноту ў адказ ад польскага знешнепалітычнага ведамства ў сувязі з інцыдэнтам з грамадзянамі Беларусі, які адбыўся на рэчавым рынку ў Варшаве 20 жніўня г.г. Пра гэта паведаміў начальнік Упраўлення Еўропы МЗС Рэспублікі Беларусь Андрэй Еўдачэнка. Паводле ягоных слоў, у ноце паведамляецца, што польскім бокам прадпрынятыя ўсе неабходныя захады для атрымання вычарпальных тлумачэнняў ад польскіх кампетэнтных органаў дзяржаўнага кіравання ў сувязі з абставінамі выдварэння беларускіх грамадзян з Польшчы.

У згаданай ноце МЗС Польшчы таксама інфармуе, што вынікі расследавання і прадпрынятых у гэтай сувязі дзеянняў будуць у бліжэйшы час даведзеныя да беларускага боку. Як падкрэсліў А.Еўдачэнка, "мы не падштурхоўваем польскі бок, паколькі хочам, каб гэта было дастаткова сур'ёзнае расследаванне".

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

Пр. Адсячэнне галавы Івана Прадцечы
К. Прота, Яна, Яцка.

**ВЕРАСЕНЬ**

# 11

'99 **СУБОТА**

Усход 6.35
Захад 19.35
Даўж. дня 13.00

Маладзік
10 верасня
Усход 9.12
Захад 21.24

### Анекдот дня

Беларусь. Начало 70-х годов. Телефонный звонок:

— Как вы живете?

80-е годы:

— Как вы? Живете?

Конец 90-х годов, экономический кризис:

— Как?! Вы живете?!

**Надвор'е**

11—12 верасня — пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер паўночны, умераны. Тэмпература паветра ўначы 11-га — +7...+12, удзень — +11...+24; 12-га — на два градусы халадней.

**Вострая тэма**

**Ад рэдакцыі.** *Мы завяршаем публікацыю даследавання прафесара Леаніда Лыча "Русіфікацыя: міф ці рэальнасць?" раздзелам, які разглядае становішча беларускай мовы ў савецкі час і сённяшнія дні і сведчыць аб фактычнай вайне, якую вядзе дзяржава супраць мовы тытульнай нацыі дзяржавы.*

*Маленькай ілюстрацыяй таму (сярод незлічонага мноства іншых паўсядзённых прыкладаў) — дакумент, які трапіў днямі ў рэдакцыю з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта і якому можна даць загаловак "Майскі (1995 г.) рэферэндум — у дзеянні". Вось гэты дакумент.*

Форма № 2

Наименование учебного заведения Минский государственный лингвистический университет

УВЕДОМЛЕНИЕ
К СВИДЕТЕЛЬСТВУ № 204

Русак Иван Леонидович
(фамилия, имя, отчество)

закончил(а) в июне 1999 г.
(месяц)

Минский государственный лингвистический университет
(наименование учебного заведения полностью)

по специальности Современные иностранные языки (белорусский язык и литература) франц. яз.

направляется в распоряжение Узденской школы-интерната

для работы в должности по специальности

с месячным окладом согласно штатному расписанию

обеспечить жилплощадью в соответствии с законодательством

Срок прибытия "15" августа 1999 г.

Начальник ОК (подпись)

26-06 1999 г.

*На першы погляд, зусім бяскрыўдная паперчына, надрукаваная, зразумела ж, на рускай мове, — накіраванне на работу выпускніка універсітэта з указаннем атрыманай спецыяльнасці. Але звярніце, шаноўныя чытачы, увагу: у графе, дзе спецыяльнасцю выпускніка пазначана "Современные иностранные языки", побач з французскай мовай у замежныя залічаны "белорусский язык и литература"!*

*Называецца, дажыліся — калі дарэчы згадаць класічны радок з Ясеніна: "В своей стране я словно иностранец...".*

*Аднак чытайце заканчэнне артыкула Л.Лыча.*

*Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар*

## Русіфікацыя: міф ці рэальнасць?

*(Заканчэнне. Пачатак у №№162—165, 167.)*

### 6. Мары застаюцца не здзейсненымі

Сапраўднае нацыянальнае адраджэнне беларускага народа пачалося толькі з ліпеня 1924 года, калі беларусізацыі надалі статус дзяжурнай палітыкі. Але жыць паводле такога статусу давялося не больш як дзесяць гадоў. Ізноў рускую мову на месца беларускай пачалі вяртаць ва ўсе віды службовага справаводства, вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Праведзенай у 1933 годзе рэформай правапісу беларускай мовы яе штучна наблізілі да рускай, зрабілі няўстойлівай ад асіміляцыя з боку апошняй. У рэдакцыях газет і часопісаў, выдавецтвах стала за правіла з двух аднолькавых паводле сэнсу слоў з беларускай лексікі перавагу аддаваць таму, якое сустракаецца ў рускай мове. У выніку ажыццяўлення практычных захадаў па ліквідацыі ўсялякай розніцы паміж беларускай і рускай мовамі многія словы ў першай сталі пісацца на манер другой: было "песьня" — стала "песня", адпаведна — "чэскі" і "чэшскі", "дэкляраваць" і "дэкларыраваць", "у садох" — "у садах", "не ганеце" — "не ганіце"... У канцы 30-х гадоў усё настойлівей з боку прыхільнікаў збліжэння беларускай мовы з рускай заяўлялася пра неабходнасць так пісаць наступныя словы: "весна", "братскі", "бібліатэка". У слоўнік беларускай мовы пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча (1937) трапілі такія адмысловыя русізмы, як "забыўчывы", "неўстрашымы", "брадзячы" і інш.

Прагрэсіўныя, нацыянальна-самасвядомыя колы грамадства як толькі маглі супраціўляліся русіфікацыі, якая і ў міжваенны перыяд насіла не прыватны, сямейна-бытавы, а дзяржаўны характар. Але такое супраціўленне было зведзена ледзь не да нулявой адзнакі ў выніку масавых рэпрэсій, якія зноў-такі "праехаліся" па самых элітарных пластах беларускага народа. Далейшае іх збядненне адбылося ў выніку вайны з Германіяй і фашысцкай акупацыі, масавых уцёкаў арганічна інтэграванай у нацыянальную культуру інтэлігенцыі на Захад напярэдадні ўступлення на Беларусь савецкага войска.

З найбольш істотных фактараў, што ў пасляваенны перыяд не ў меру актыўна, а таму і небяспечна праяўлялі сябе ў рэжыме русіфікацыі, у першую чаргу павінна быць названа свядомае напаўненне з боку агульнасаюзных структур дзяржаўных і партыйных, гаспадарча-адміністрацыйных органаў Беларусі, яе вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установ адкамандзіраванымі сюды кіраўнікамі і спецыялістамі, абсалютная большасць якіх не ў стане была працаваць у беларускамоўным асяроддзі, не ведала ні гісторыі, ні культуры новага для іх краю.

Павярнуць сітуацыю ў бок мясцовых культурна-моўных традыцый аказалася зусім немагчыма, бо на самых высокіх дзяржаўных і партыйных пасадах сядзелі небеларусы. **Беларусам так і не ўдалося замацавацца ў статусе сапраўднага гаспадара ў сваім уласным доме.** Практычна ва ўсіх сферах грамадскага жыцця рэспублікі іх родная мова аказалася сацыяльна незапатрабаванай. Гэты фактар вельмі добра паспрыяў партыйным і савецкім органам у паспяховай мэтанакіраванай барацьбе з беларускаю моваю ў агульнаадукацыйных школах, распачатай імі ў другой палове 50-х гадоў. Бо навошта вывучаць тое, што ніколі не спатрэбіцца ў дэнацыяналізаваным жыцці?

Ад зусім рэальнага канчатковага этнічнага вымірання беларускі народ выратавала толькі гарабачоўская перабудова. На здзіў многіх, у пэўнай ступені і аўтара гэтых радкоў, у народа з'явіліся здаровыя сілы і шчырае жаданне павесці рашучае змаганне з русіфікацыяй, стаць на шлях нацыянальна-культурнага Адраджэння. Сапраўдным гістарычным здзяйсненнем на гэтым шляху сталі абвяшчэнне Беларусі суверэннай дзяржавай, прыняцце законаў аб наданні беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у краіне, стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі, развіцці беларускай нацыянальнай культуры. І ў кожным з такіх здзяйсненняў выключна вялікай была роля дзяржавы. Многія з палітыкаў разумелі, што без яе падтрымкі даведзены да нечуванай культурна-моўнай асіміляцыі народ не ў стане вылечыцца ад гэтай хранічнай хваробы.

Першыя пазітыўныя зрухі ў нацыянальным Адраджэнні канца 80-х — пачатку 90-х унеслі страшэнны пярэпалах у асяроддзе большасці дзяржаўных, грамадска-палітычных дзеячаў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, што мо ўжо на працягу некалькі пакаленняў прытрымліваліся рускіх і цураліся сваіх прыродных культурна-моўных традыцый. Такім людзям удалося атрымаць верх, захапіць уладу не без падтрымкі пэўных сіл Расіі і зноў саштурхнуць беларускі народ у асіміляцыйную багну.

Каб надаць бачнасць нейкай законнасці, дэмакратычнасці таму, што робіць сучасная беларуская дзяржава па русіфікацыі свайго народа, шырока практыкуюцца лакальныя апытванні, рэспубліканскія рэферэндумы (плебісцыты) з адпаведнай папярэдняй ідэалагічнай апрацоўкай масаў. Як вядома, найбольш модным правядзенне рэферэндумаў было падчас першай сусветнай вайны, пра што добра паклапаціліся ўрады і інтэлігенцыя шэрагу поліэтнічных дзяржаў. Разумеючы, наколькі моцнымі ў іх нацыянальных рэгіёнах з'яўляліся пазіцыі тытульных народаў, яны прапаноўвалі ўсе пытанні дзяржаўна-палітычнага, нацыянальна-культурнага жыцця нетытульных народаў вырашаць толькі на падставе плебісцыту, з цвёрдай надзеяй, што гэта не дазволіць апошнім атрымаць перамогу. Не сумняваліся ў гэтым і нетытульныя народы. Вось чаму ўдзельнікі прыгнечаных нацый, што ў канцы 1916 года сабраліся ў швейцарскім горадзе Лазана на свой трэці з'езд, практыку плебісцытаў аднадушна ацанілі як надзвычай небяспечную з'яву. Не пярэчылі такой ацэнцы і запрошаныя на з'езд беларусы.


*(Заканчэнне на 2-й стар.)*


**Улівайся**

## Прафсаюзы Магілёўшчыны збіраюцца падтрымаць рэспубліканскую акцыю пратэсту

Прафсаюзныя арганізацыі Магілёўскай вобласці вырашылі падтрымаць рэспубліканскую акцыю пратэсту, прызначаную на 30 верасня. Рашэнне аб гэтым прыняў прэзідыум Магілёўскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў. Лідэры прафарганізацый звярнуліся ў Магілёўскі гарвыканкам з просьбай аб дазволе правесці 30 верасня ў Магілёве на плошчы імя Леніна перад Домам саветаў мітынг з удзелам каля 5 тысяч чалавек. Рабочыя збіраюцца пратэставаць супраць наступу на сацыяльна-эканамічныя правы працоўных. Іх лозунгамі стануць патрабаванні аб зніжэнні росту цэн, павышэнні зарплаты, адмены рашэння аб абавязковым уводзе кантрактнай сістэмы працоўных узаемаадносінаў.

Незадоўга да гэтага на пасяджэнні абласнога Савета па працоўных і сацыяльных пытаннях прадстаўнікі выканаўчай улады Магілёўскай вобласці зрабілі спробу ўгаварыць прафсаюзных лідэраў адмовіцца ад падтрымкі рэспубліканскай акцыі пратэсту. Так, намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Глаз прапанаваў да 30 верасня правесці ва ўсіх працоўных калектывах вобласці сходы з удзелам членаў аблвыканкама для абмеркавання сённяшняй эканамічнай сітуацыі ў краіне. Усе заўвагі ён прапанаваў абагульніць і накіраваць у адрас Адміністрацыі прэзідэнта і Савета міністраў. Апрача таго, Анатоль Глаз паабяцаў "зняць праблему даўгоў з уплатай членскіх прафсаюзных узносаў". Ён таксама адзначыў, што свабода прэсы, сходаў і мітынгаў магчыма толькі падчас стабільнасці ў дзяржаве і папрасіў прафсаюзы гэтую стабільнасць захоўваць. Аднак магілёўскія прафсаюзы вырашылі падтрымаць агульнарэспубліканскую акцыю пратэсту.

Зрэшты, назіральнікі даволі скептычна ставяцца да іх рашучасці. Абласное аб'яднанне прафсаюзаў на працягу апошніх гадоў перыядычна заяўляла аб сваёй рашучасці ўзначаліць акцыі пратэсту рабочых, але ў апошні момант дамаўлялася з выканаўчай уладай пачакаць і працягваць перамовы.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

# Русіфікацыя: міф ці рэальнасць?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Аднак на Беларусі і тады адсутнічалі ўмовы, каб давесці да ведама народа, што ўсялякае шараханне ў бок Масквы ці Варшавы не прынясе яму жаданага паратунку, што адзіны сродак выратавання — гэта стварэнне ўласнай суверэннай дзяржавы. Таму польскім вайскоўцам і адміністрацыі на занятай у 1919—1920 гг. тэрыторыі нашага краю з дапамогай мясцовых палякафілаў удалося сабраць такую велізарную колькасць заяў і просьбаў аб жаданні яго жыхароў далучыцца да сваёй заходняй суседкі, што ажно яе многія палітыкі ўсумніліся ў шчырасці такіх пісьмовых хадайніцтваў. Збіваць з панталыку народ, фальсіфікаваць факты — гэта спаконвечная практыка палітыкаў. Ім не ўдаецца падмануць толькі людзей з цвярозым розумам. Такіх ніякімі 98—99-працэнтнымі вынікамі выбараў і рэферэндумаў не прымусіш паверыць у хлусню.

Перакананы: міне зусім мала часу, і тады не толькі большасць інтэлігентаў, але і значная частка простага народа назаве майскі рэферэндум 1995 года самазабойствам, бо толькі сляпыя людзі могуць не заўважаць, як пасля яго дзяржава рашуча стала на шлях выштурхоўвання беларускай мовы з усіх сфераў грамадскага жыцця. Сваімі спрэс рускамоўнымі выступленнямі беларускія палітыкі дыманстратыўна даводзяць народу, якая мова ў нас мае перспектыву, што пра ніякую роўнасць у дзяржаўных статусах беларускай і рускай моваў і гаворкі быць не можа.

Майскі рэферэндум 1995 года дапамог кіраўнікам і арганізатарам народнай адукацыі вярнуць гэтую важную сферу да яе былой русіфікатарскай дзейнасці. Ведаючы, якія незаменныя страты апошняя прычыніла нацыянальнаму жыццю беларускага народа ў пасляваенныя гады, дзяржава ўсё ж дала свой дазвол на працяг яе. Ізноў адукацыя ўзгадоўвае маладыя пакаленні беларускага народа падобнымі на блудных сыноў. Яны жывуць зусім чужымі для іх роднай Бацькаўшчыны нацыянальна-культурнымі традыцыямі, знаходзяцца па-за рысай яе прыроднай мовы, адрываюцца ад сапраўднай нацыянальнай гісторыі. З такіх пакаленняў толькі адзінкі некалі вернуцца да сваіх культурна-моўных вытокаў, але зрабіць штосьці важнае, карыснае для нацыянальнай духоўнай спадчыны краіны наўрад ці знойдуць сілы і задаткі.

Цяпер у нас больш чым дастаткова важкіх падставаў, каб падаць у любога рангу міжнародную арганізацыю скаргу на беларускі ўрад за планамернае правядзенне дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі тытульнай нацыі краіны. І ніякі адвакат не ў стане будзе апраўдаць яго хаця б ужо таму, што наша моладзь за час вучобы ў агульнаадукацыйных школах, тэхнікумах і ВНУ атрымлівае смяротную дозу русіфікацыі. Робіцца ж гэта дзеля таго, каб лепш падрыхтаваць беларускі народ да самай цеснай палітычнай інтэграцыі, а не — дык і да поўнага зліцця з Расіяй на правах абласной аўтаноміі ці звычайнай губерні чыста расійскага кшталту. Таму, каб атрымаць такі "прэстыжны" статус, і вынішчаецца дашчэнту прыродны культурна-моўны пласт Беларусі.

Думаецца, у яго вынішчэнні ўжо даўно перагнута палка. У культурна-моўным плане для зліцця беларусаў з рускімі ўсе перадумовы былі створаны яшчэ папярэдняй камуністычнай таталітарна-бюракратычнай сістэмай. Сённяшняя культурна-моўная русіфікацыя беларусаў, якую з такім імпэтам вядзе наша дзяржава дзеля стварэння адзінай дзяржавы з Расіяй, ужо зусім лішняя, бо і паміж самімі рускімі, што жывуць на Маскоўшчыне ці на Урале, у Краснадарскім краі ці на Крайняй Поўначы, таксама ж захоўваюцца пэўныя адрозненні ў культуры і мове, побыце і звычаях. Усё гэта трэба мець на ўвазе. Таму куды лепш было б і для беларусаў, і для славянскай супольнасці народаў, і ўсяго цывілізаванага свету, каб урад краіны дбаў не пра канчатковае вынішчэнне яе нацыянальна-культурных, моўных адрозненняў ад Расіі, а пра іх захаванне і развіццё.

У наш адказны час, калі мо апошнія гады дажывае на свеце дашчэнту зрусіфікаваны беларускі народ, я без усялякіх ваганняў кіроўцу тралейбуса, трамвая ці аўтобуса, які з пасажырамі размаўляе па-беларуску, стаўлю ў плане нацыянальнай ідэі вышэй за любога палітыка, інтэлектуала, які не валодае, не карыстаецца беларускай мовай і працягвае давяршаць выкананне той д'ябальскай задачы, што два стагоддзі таму была закладзена ў аснову русіфікацыі дзяржаўнымі дзеячамі і афіцыйнага кшталту навукоўцамі Расійскай імперыі. У мяне няма аніякага сумнення ў тым, што павальная страта беларусамі сваёй мовы ёсць прамы вынік яе працяглай каланіяльнай залежнасці ад той дзяржавы, мову якой ім навязалі.

Так здаралася з многімі народамі, пазбаўленымі нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту. Калі ж у беларусаў у параўнанні з іншымі нярускімі народамі працэс асіміляцыі зайшоў значна далей, дык гэта я тлумачу галоўным чынам дзвюма прычынамі: блізкасцю беларускай і рускай моваў, нашай незвычайнай пакорлівасцю і паслухмянасцю, нейкай хваравітай даверлівасцю. А гэтыя ж адмоўныя рысы ў характары прышчэплены нашаму народу дарэвалюцыйнымі школамі і рускаю праваслаўнай царквою, паслярэвалюцыйнымі ідэалагічнымі службамі бальшавіцкай партыі, якой удалося схіліць на свой бок пераважную частку беларускай інтэлігенцыі.

Мне хацелася б звярнуць увагу палітыкаў і зрусіфікаваных ім інтэлігентаў, што не толькі адарваліся ад нацыянальнай духоўнай спадчыны роднага народа, але і ўсяляк перашкаджаюць абуджэнню яе да жыцця, на наступнае. Сусветная практыка пераканаўча паказала, што ў культурна-моўнай асіміляцыі народаў не ўсё бывае такім простым, як можа падацца з першага погляду. Часам нацыянальна-культурнае адраджэнне прабіваецца праз "асфальт" і там, дзе ўжо паспелі адслужыць паніхіду па народу. Таму не лішнім было б некаторым з нашых высокага рангу службоўцам, асабліва беларускага паходжання, задумацца: Богу ці сатане яны служаць, змагаючыся з беларускай мовай? Моўны рэактар краіны працуе ў такім небяспечным рэжыме, што няма аніякай гарантыі, што рана ці позна тут не адбудзецца "чарнобыльскай" аварыі. Зусім верагодна, што такая пагроза рана ці позна прымусіць глянуць на сябе многіх беларусаў, і сярод іх у дастатковай колькасці з'явіцца магутных, здаровых сіл, якія на ўвесь голас заявяць дзяржаве: "Стоп! Час канчаць з абрыдлай асіміляцыяй, пазбаўленнем беларусаў усялякай магчымасці развівацца паводле сваіх нацыянальна-культурных і моўных стандартаў!". Нельга ж увесь час наш народ карміць русіфікацыяй і трымаць на галодным пайку беларусізацыю.

Гісторыі многіх краін, асабліва тых, што павызваляліся ад чужацкай няволі ў XX ст., добра вядомыя факты працягу іх урадамі палітыкі, якая больш адпавядала інтарэсам колішніх каланізатараў, чым уласнага народа, і што крайне адмоўна адбівалася на працэсах нацыянальна-культурнага адраджэння. Аднак рана ці позна і ў такіх краінах выраслі адданыя нацыянальнай ідэі дзяржаўныя дзеячы, узгадоўвалася этнічна-самасвядомая інтэлігенцыя, якія не жадалі, каб іх народы і надалей знаходзіліся ў каланіяльным рабстве, жылі паводле чужых культурна-моўных стандартаў. Дзякуючы тытанічным намаганням такіх людзей, для сусветнай цывілізацыі выратаваны ад асіміляцыі дзесяткі народаў з арыгінальнай, самабытнай культурай і мовай.

Паколькі наша дзяржава не ставіць, а ігнаруе гэтую высакародную мэту, за вырашэнне яе неадкладна трэба брацца ўсім здаровым сілам беларускай нацыі. Спрыяльны час для гэтага ўжо мінуў. Мы яшчэ ніколі, як сёння, не зведвалі ад самой дзяржавы, прычым сваёй, уласнай (!), такога магутнага асіміляцыйнага ўціску. У процівагу вынікам майскага рэферэндуму 1995 года, нібыта сцвердзіўшага роўнасць дзвюх дзяржаўных моў, яна праз насцеж расчыненыя дзверы проста вытурыла беларускую мову нават з пасяджэнняў палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Аналагічным чынам, зразумела, паставіліся да роднага слова яе карэннага насельніцтва ва ўсіх звёнах прэзідэнцкай "вертыкалі". Зараз па радыё і тэлебачанні нават ў дыялогах з уладнымі кіраўнікамі раённага маштабу не прынята задаваць пытанні на беларускай мове — каб не засведчыць адсутнасць ў іх навыкаў валодання апошняй ці, не дай Бог, каб не пасадзейнічаць яе адраджэнню, папулярызацыі ў грамадстве.

На такі нечуваны, невядомы для цывілізаванага свету здзек з роднай мовы тытульнай нацыі наша дзяржава пайшла і ідзе толькі з-за сваёй цвёрдай упэўненасці, што не наткнецца на сур'ёзнае супраціўленне народа, ужо добра засіміляванага ў папярэднія гады. Супраць ганебных моўных эксперыментаў дзяржавы нават як след не выступае навуковая, творчая, педагагічная інтэлігенцыя. І не выступае толькі таму, што абсалютная большасць яе куды лепш пачувае сябе ў рускай, чым беларускай культурна-моўнай стыхіі. Дзякаваць жа за ўсё гэта найперш трэба самай "перадавой і прагрэсіўнай" у свеце беларускай сістэме адукацыі. Дзяржава можа заставацца зусім спакойнай, бо гэтай сістэмай яшчэ далёка не поўнасцю вычарпаны яе патэнцыял для такой "стваральнай" дзейнасці.

Этнічнае выміранне народаў у XX ст. пачыналася, як правіла, праз асіміляцыю іх інтэлігенцыі. На Беларусі гэты працэс зайшоў вельмі далёка. Востры дэфіцыт нацыянальна самасвядомай, актыўнай інтэлігенцыі адчуваецца паўсюдна. Таму кожны, хто лічыць сябе такім, не мае права бяздзейнічаць. У выратаванні нацыі ад этнічнай смерці няма дробязяў. Трэба кожны дзень хоць штосьці рабіць для прадухілення этнічнага вымірання беларускага народа, дапаўняючы папулярны дэвіз "Жыве Беларусь!" канкрэтнымі карыснымі справамі. У падобнай да нашай сітуацыі выжывалі толькі тыя народы, якія, не спадзеючыся на шчаслівы выпадак, самі кавалі сабе перамогу.

## Ну і жарты ў "мінёраў"

Калі ў суседняй Расіі раз-пораз у розных месцах знаходзяць выбуховыя прыстасаванні, якія часам узрываюцца, дык у нас, дзякуй Богу, пакуль да бяды справа не дайшла. Тым не менш на мінулым тыдні было неспакойна на тэрыторыі Віцебскага чыгуначнага вакзала. Нейкі невядомы, якога так і не здолелі знайсці, паведаміў аб быццам бы закладзенай бомбе ў памяшканні. Пасля эвакуацыі соцень людзей значная тэрыторыя побач з вакзалам была ачэплена, парушыўся расклад руху паяздоў, часова быў перакрыты рух гарадскога транспарту. Нягоднік, напэўна, толькі пацяшаўся, калі бачыў, колькі было задзейнічана ў прадухіленні здарэння людзей у пагонах, сапёраў, амапаўцаў. Праз чатыры гадзіны трывозе быў дадзены "адбой". Зрэшты, на Віцебшчыне такім чынам ужо "мініраваліся" вакзалы ў Оршы і Полацку, дзве віцебскія школы, дубелі на марозе жыхары шматпапярховага інтэрната. Жартаўнікоў у большасці выпадкаў не знаходзілі.

**Уладзімір ШАЙКОЎ.**

Автотехника аварийных и спасательных служб на территории головной нефтеперекачивающей станции "Мозырь" Гомельского предприятия транспорта нефти "Дружба" концерна "Белнефтехим".

**Фото IREX/ProMedia.**

## Встреча Александра Силича в Европейском парламенте

Представитель Хартии'97 в Брюсселе Александр Силич провел официальную встречу с президентом делегации Европейского парламента Яном Маринусом Виерсмой по вопросам отношений с Украиной, Беларусью и Молдовой. В ходе встречи г-н Виерсма был подробно проинформирован о текущей политической ситуации в Беларуси.

Была также достигнута предварительная договоренность об организации в Европейском парламенте встречи с представителями белорусской оппозиции. Во встрече, которая должна пройти до конца текущего года в Брюсселе, примут участие руководители оппозиционных Лукашенко политических партий, общественных организаций и СМИ.

**Пресс-центр Хартии'97.**

**Памфлет**

*Владимир ЮДИН*

# На кой нам "заяц"!

Статистика захлебывается от восторга, дескать, промышленность гонит и гонит сверхплановую продукцию. Идет она нарасхват, не залеживается — на складах пусто, как в кармане простого человека. Но пустым становится и "заяц" — вот что странно! Финансисты надувают "косого", как цыгане лошадь перед продажей, — и впустую: воздух свищет сзади и спереди. Глядеть жалко на бедолагу. Видать, не зря Кебич рвался в российскую рублевую зону: понимал, что на братьях меньших далеко не уехать.

И какая умная голова придумала "зайца"? Не могла дать команду на обзаведение слонами, бегемотами! А теперь ломай голову, как спасти худосочного зверька!.. Но если поразмыслить: на кой ... этот самый, хрен он нужен? Может, пустить под нож и выпустить что-нибудь посолиднее?

Как назвать новые деньги? Назвать талерами — демократы потребуют поместить на них свои портреты, захотят увековечить даты образования своих партий. А воспротивится власть — выведут на улицу сотни тысяч демонстрантов с требованием ее отставки.

Проводить же референдум с вопросом: "Вы за талер или рубль?" — пустая трата времени и средств. Ведь мы с рублем выросли, а сейчас ради обладания российским готовы продать Москве не только все мясо и масло, но и Батьковщину.

Надо хорошенько подумать, кого рисовать на новой валюте... Конечно же, портреты ныне здравствующих государственных мужей Беларуси! Смысл тут простой: как люди честолюбивые, знающие себе цену (Лукашенко стерегут почти триста охранников), в доску разобьются, чтобы деньги со своим изображением становились более солидными, т.е. конвертируемыми. Осознают себя атлантами, которые держат на плечах всю страну! А держится республика — это знает любой школьник — на Лукашенко, Титенкове и Шеймане. Люди же политически подкованные назовут еще Линга, Малофеева, генералов всех мастей и переквалифицировавшегося почти в пенсионном возрасте из строителя в главного банкира — Прокоповича.

Но какие "держалы" из экс-секретарей ЦК партии? Не могли удержать от развала государство рабочих и крестьян — а удержать деньги, обладающие свойством прилипать черт знает к кому! Да и возраст не тот. Только и умеют быть на подхвате у Лукашенко. Но чтобы не обижать заслуженных товарищей, можно проштамповать их изображения на мелких разменных монетах.

Не исключено, что увидеть свой профиль на медном пятаке захочет и полковник Заметалин. А чем хуже его полковник Латыпов? Вон как преподносит твердолобому Западу неординарную политику своего хозяина!

Никаких проблем не возникает с оформлением самой крупной купюры, скажем, сторублевой. Разумеется, на нее "ляжет" Александр Григорьевич.

А кого поместить на полусотенной банкноте — Шеймана или Титенкова? Первый держит безопасность страны в ежовых рукавицах. К примеру, требуется найти двести врагов среди участников демонстрации: нет вопроса! А завхоз из воздуха делает деньги для хитрого фонда Лукашенко. Поступит сверху команда найти миллион долларов на дожинки, базар, российское кино — нет проблем. Так что кто из них второй человек в республике, а кто третий — судить Александру Григорьевичу.

Нам же, кормящимся с лукашенковского стола труженикам, проживающим в самой демократической стране Европы, разрешат подумать, как назвать в обиходе новые денежные знаки...

Ну, дензнаки с портретом Титенкова свободолюбивые граждане на кухне станут называть "тютю". А с Шейманом — "шен"... Но это же что-то от сионизма! Безопаснее взять второй слог фамилии, и получится — "мана". Из ФИО же батьки народный фольклор может выдать такое, что статьи о защите его чести и достоинства не хватит!

Но это, так сказать, техническая сторона — сложнее будет с обменным курсом нашей валюты: как ее по уму запустить на мировой рынок?.. А запустим по курсу рубль к доллару — Прокоповичу это дельце провернуть, что раз плюнуть. Пусть у американцев болит голова, как спасти свой доллар от нахрапистого белорусского зай... рубля!

А атланты будут стоять, как скала! Однако держать на руках триллионы рублей, не имея возможности даже отмахнуться от комара? И вот здесь экс-секретари и полковники, имеющие большой опыт обслуживания Москвы и Лукашенко, станут бесценными помощниками. Подадут белорусской троице богатырей все, что требуется, соответственно и уберут. Организуют похороны "зайца" — с речами, музыкой и прессой.

Только предварительно придется выставить зверька врагом, погубившим экономику страны. Вопрос поручить "панорамщикам" и "резонаторам" из БТ.

А все-таки жалко "косого": который год, кляча, дергается. Но — не потянул народное хозяйство, хуже того, тащит в пропасть. Так и хочется ему крикнуть: "Стой, болван!" Однако прет на восток, навстречу восходящему солнцу социализма — и ничего не видит, не слышит, не соображает.

**Стоп-кадр**

В деревню Радуга Ветковского района Вика Заглада всегда едет с удовольствием. Здесь все с детства знакомо и дорого, даже петух — и тот рад встрече. А главное — это, конечно, бабушка, которой Вика и помогает убрать с огорода богатый урожай.

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

**Ну і ну!**

## Паводле распараджэння А.Лукашэнкі ствараецца музей гісторыі камсамола Беларусі

Як стала вядома БелаПАН, Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне "Аб некаторых захадах па развіцці маладзёжнага руху ў Рэспубліцы Беларусь", згодна з якім будынак па вуліцы Карла Маркса, 40 у Мінску перадаецца ў аператыўнае кіраванне Упраўлення справамі прэзідэнта "для арганізацыі Рэспубліканскага дома моладзі і музея гісторыі камсамола Беларусі".

Савету Міністраў даручана ў месячны тэрмін зацвердзіць палажэнне аб Рэспубліканскім доме моладзі, прадугледзеўшы парадак яго ўтрымання, у тым ліку фінансавання, а таксама забяспечыць права дзяржаўнай уласнасці на ўказаны будынак.

Варта адзначыць, што дагэтуль правам уласнасці на будынак па вуліцы К.Маркса, 40 валодаў Беларускі Саюз моладзі, які з'яўляецца правапераемнікам Ленінскага камуністычнага саюза моладзі (ЛКСМБ), якому гэты будынак належаў у былыя савецкія часы. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН першы сакратар ЦК Беларускага Саюза моладзі Уладзімір Вайцянкоў выказаў неўразуменне адносна з'яўлення данага распараджэння, якое для кіраўніцтва БСМ з'явілася поўнай нечаканасцю. "Гэта або нейкая памылка, або, можа быць, правакацыя ў бок адносінаў моладзі і прэзідэнта", — лічыць У.Вайцянкоў. Паводле ягоных слоў, больш канкрэтна аб мэтах і сапраўдным сэнсе распараджэння можна будзе казаць пасля таго, як БСМ афіцыйна атрымае даны дакумент.

**Аляксей АРЭШКА.**

**Взгляд**

## Должность президента-стажера не предусмотрена

Как бы ни считал сроки сам Лукашенко, он не сможет нигде и никому, кто владеет логикой и находится в рамках здравого смысла, доказать, что сегодня он правит первый срок. Ибо списать два года пребывания его у власти будет не на что. В Конституции не предусмотрена должность президента-стажера. Но в ней четко записано (ст.81): "Президент избирается на пять лет непосредственно народом Республики Беларусь на основе всеобщего, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании. Одно и то же лицо не может быть президентом более двух сроков".

Неважно, сколько де-факто длился каждый из сроков. Конституция общую календарную продолжительность здесь не определила. В ней выделено главное — не более двух временных рамок имеет право занимать данное лицо президентский пост. Третьего не дано. Поэтому Лукашенко оказался в положении, когда, вступив на второй срок, он теряет законное право выдвигать свою кандидатуру на следующий — третий срок. Такой вывод можно сделать, если провести логический анализ ситуации, которая сложилась вокруг поста президента Республики Беларусь.

На завершение последнего срока своего правления Лукашенко, вполне возможно, сдаст Беларусь, сделав ее российской провинцией. Ведь тогда у него появится возможность осваивать политический горизонт России. На худой конец, быть губернатором где-нибудь в Волгограде все же лучше, чем числиться весьма непрестижным (по результатам своего правления) пенсионером...

**Вячеслав ОВСЕЙЧИК, журналист.**

## ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).

Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай картачкай запаўняецца падпісчыкам чарнiламі, разборліва /без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

*Елена СУРОЕГИНА:*

# "Заходя в парк, вытрите ноги..."

### "Супер-8", "хали-гали" и одно на весь город "чертово колесо". Это то, что сегодня ассоциируется с одним из самых популярных мест отдыха...

***Совершенно необязательно сравнивать неорганизованную, отсталую белорусскую сферу отдыха с прогрессирующей с каждым днем сферой отдыха в развитых странах. И дело не в деньгах и даже не в отсутствии идей. Многие вещи легко поправляемы, лежат на поверхности и во многом зависят от нашей культуры и основных жизненных приоритетов. Никакие капиталовложения не помогут, если мы будем рассматривать парк культуры и отдыха как большую общественную мусорку. Уважение к собственному отдыху, считает директор парка Челюскинцев Елена Суроегина, не менее важно, чем уважение к собственному труду.***

## Белорусский "Диснейленд"

— В парке Челюскинцев нет ни одного фонтанчика с питьевой водой. Холодные минералку или "Кока-Колу" здесь купить можно, а вот чтобы, как положено, "на халяву" попить студеной водички — нет... Хотя раньше такой проблемы не было. Пока водопроводные трубы не прогнили...

Есть один более-менее приличный туалет. И два, источающих жуткую вонь, выгребных клозета. Платный туалет? Зачем, если наши люди могут, не отходя далеко от центральной аллеи, прямо в кусты..?

Хотелось бы иметь в парке хоть одно детское кафе. Со всякими муссами, пирожными, тортами, сладостями. Чтобы было вкусно, не очень дорого и по-домашнему. Честно говоря, я хотела создать целую сеть кафе, баров, закусочных. Потому как раньше сюда завозили то, что не доели в столовых. Сама поехала по ресторанам. Но для них это оказалось невыгодным. Когда нашлись желающие работать, по городу прошел слух, будто бы здесь на торговле зарабатывают миллиарды. От торгашей не стало отбоя, но количество, к сожалению, не всегда означает качество...

Не гуляют у меня по парку девушки с цветами. Шашлыки и "сникерсы" им покупают, а вот цветы почему-то редко...

Воруют двигатели от аттракционов. В этом году разобрали восемнадцать скамеек.

Нещадно бьют лампочки в фонарях: целует парень барышню, а тут фонарь в лицо светит, он в него — камнем, чтоб не подглядывал...

Раньше территория парка была огорожена. Но потом ограду перенесли на Московское кладбище — вдруг там посетители сбегут? В результате корневая система вытоптана, на зеленой зоне все в непонятных лазейках, люди заходят в парк, как им вздумается...

Недавно везде поставили новые мусорки в виде клоунов. Обошлись они нам недешево. И уже их поджигают. А бокалы вместе с недоеденными бутербродами и растаявшим мороженым как бросали на траву, так и бросают...

Мало хороших аттракционов. Развлечений как таковых тоже нет. Потому что, на мой взгляд, прийти в парк выпить пива — это не развлечение. Последние десять лет только и слышим про белорусский Диснейленд. Какой Диснейленд?! Я предлагаю купить каждому парку хотя бы по *одной* карусельке — это ж наши кормильцы. Говорят, дорого, нет средств. Многим нашим аттракционам уже по тридцать с чем-то лет. К следующему сезону хотели бы многие из них модернизировать. Колесо обозрения, например, уже сейчас привели в порядок. Вроде бы красивым, веселеньким стало, но... это все имитация, латание дыр. К сожалению, те, от кого мы зависим, не хотят понять простую истину: если надеть на восьмидесятилетнюю старушку красивое белье, она все равно не помолодеет... И это при том, что в Беларуси есть НПО "Центр", где делают хорошие аттракционы и потом продают их за валюту в Россию...

## Лишний билетик

— Каждые субботу-воскресенье в парке проходит самая массовая в Минске демонстрация. С колоннами-очередями за "сникерсами", шашлыками, мороженым, билетами на аттракционы. Народ совершает променад...

Люди идут в парк. Несмотря на "агульнае" нищенское существование, пьют пиво, едят шашлыки, деток на качелях катают.

Иногда людей жалко становится. Однажды ко мне пришла женщина, говорит: "Давайте я у вас здесь полы помою, территорию уберу или еще что-нибудь сделаю. Я ребенку пообещала покатать, а денег нет...". В таких случаях никогда не могу отказать... Вообще, почему-то именно в этом году очень многие звонят и спрашивают: сколько стоят билеты? Услышав цифру, некоторые со вздохом кладут трубку... Хотя билеты у нас стоят не так уж и дорого. От 50 до 300 тысяч. Для сравнения: в Москве в парке Горького билет стоит минимум два доллара.

В этом году приобрели на танцплощадку хорошую аппаратуру. Сейчас здесь по вечерам танцуют полторы тысячи молодежи. По субботам—воскресеньям на танцплощадке дискотека "Для тех, кому за ...". Несмотря на то, что в эти дни здесь собирается порядка шестисот пожилых людей, это не коммерческое мероприятие. И когда мы входной билет вместо двадцати тысяч сделали сорок, они бойкот устроили...

800 деревьев нуждаются в срочной токсации (вырубке). В среднем сосна живет около 80 лет. Парк Челюскинцев был разбит на месте леса, в этом году ему 65 лет. А деревья здесь были еще до его возникновения. И сколько им на самом деле лет — никто не знает...

Я вот думаю: у нас столько всяких учреждений, институтов, техникумов, которые готовят работающих с природой специалистов. Почему они не приходят к нам на практику? Почему в наших школах вместо практики нельзя прийти в парк, поработать часок-другой с граблями, мусор пособирать? Глядишь, и на аллеи в следующий раз не плевали бы...

## Люди наизнанку

— В парке работает конная милиция. Много навоза. Согласна: там, где большое скопление людей, на "воронке" не проедешь. Но по парку до сих пор как ни в чем не бывало "гоняют" машины. Смешно, когда эдакий Филипп Киркоров в погонах весь вечер стоит на сцене рядом с ди-джеем и, войдя в раж, начинает дергаться и напевать песенки. Отдельная тема — выпивший милиционер. Когда девочек "снимает". Или с красной физиономией сунет в нос удостоверение и просит покатать. На качелях ему, естественно, становится плохо... А уборщице убирать это... Я, конечно, немножко ерничаю, без милиции здесь никак нельзя. И чисто по-человечески огромный им поклон. Но... Иногда не знаешь, что кричать: или "зовите милицию", или "спасите от милиции"...

Кстати, об уборщицах. Парк убирают семь человек. Метелками. Объедки, огрызки, бытовой мусор, экскременты — все руками собирают... Представляете, как им обидно, когда утром все "вылизано", а вечером снова везде мусор... Лично мне стыдно перед ними. И часто я сама, идя по главной аллее, бумажки поднимаю.

## Хочу...

— Честно говоря, парк находится в грустном состоянии. Даже шучу иногда: еще чуть-чуть и буду я директором леса, а не парка Челюскинцев. Потому что сверни с аллеи, зайди в глубь — там самый обычный лес. Как везде.

Писала письма. Просила, чтобы парку Челюскинцев помогли с техническим обеспечением. Помогли. Парку имени М.Горького дали четыре мотоблока и трактор "Беларусь". А нам не положено. Потому что мы прибыльные. Работая пять месяцев из двенадцати, сделать предприятие убыточным легко. А платить работникам хорошую зарплату и премии может не каждый...

Такой парк, как наш, на мой взгляд, должен развиваться обязательно с привлечением частного капитала. Хочу, чтобы сюда пришли люди, которые смогут одновременно зарабатывать деньги и для себя, и для парка. Поверьте, здесь есть где развернуться.

На сегодняшний день мы действительно единственный в республике хозрасчетный парк, который самостоятельно себя содержит. Да, денег все равно катастрофически не хватает. И сейчас модно ходить, просить, обивать пороги. Я себе морально не могу этого позволить. Во-первых, как женщина. А во-вторых, я слишком хорошо в детстве усвоила фразу Булгакова: "Никогда ничего не просите у тех, кто сильнее вас. Сами придут и сами дадут".

Во всем мире подобный парковый бизнес — супердоходное дело. Пройдут голодные времена, и люди обязательно станут вкладывать сюда деньги. А пока... Все держится на голом энтузиазме.

Хочу заказать план реконструкции и развития парка. Обязательно запишусь на прием к Ермошину. Хочу, чтобы нам помогли купить хоть один аттракцион, возвести ограду. Причем я не прошу ничего даром, мы все отработаем...

Мы для людей стараемся, а эти люди приходят сюда волками, как к себе в лес, где волчье логово... Остановитесь, не надо так!.. Грязи и пошлости уже предостаточно вокруг!..

Мне бы хотелось, чтобы люди помнили: не последний раз в парк приходите. Когда-нибудь и вы сядете на грязную скамейку или наступите на зловонную кучку. Посему, заходя в парк, лучше вытрите ноги...

**Марина КОКТЫШ.**

